Гродна
№ 2 (413),
25 студзеня 2015

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# АХВЯРАВАЦЬ СЯБЕ БОГУ...

**2 лютага каталіцкі Касцёл адзначае свята Ахвяравання Пана. У гэты дзень мы ўспамінаем ахвяраванне Марыяй і Юзафам іх першароднага Сына Езуса ў Ерузалемскай святыні. У традыцыі гэта таксама свята Маці Божай Грамнічнай. 2 лютага прыпадае таксама Дзень кансэкраванага жыцця.**



*Сёстры назарэтанкі з самым малодшым удзельнікам рэкалекцый для сем'яў*

Кожны з нас таксама як Езус у Ерузалемскай святыні ахвяруе сваё жыццё на выключную службу Богу. Варта зрабіць гэта як мага хутчэй, поўнасцю аддаючы сябе пад апеку ўсемагутнаму Богу.

Паводле Евангелля, Езус згодна з яўрэйскім законам як першародны сын быў ахвяраваны Богу ў святыні. Тады таксама старац Сімяон прамовіў прароцтва, называючы Езуса "святлом для асвятлення язычнікаў і хвалой Ізраэля". Таму гэтае свята багатае на сімволіку святла.

У гэты дзень, перажываючы Год кансэкраванага жыцця ў Касцёле, давайце памятаць у сваіх малітвах аб манаскіх супольнасцях, як мужчынскіх, так і жаночых, якія працуюць у паўсюдным Касцёле, і асабліва на тэрыторыі Беларусі.

Папа Францішак у лісце на перажыванне гэтага года дзеліцца сваімі чаканнямі: "Каб сярод нас не было сумных твараў незадаволеных асоб, бо «сумнае перайманне – гэта журботнае перайманне». Мы, як і ўсе іншыя мужчыны і жанчыны, перажываем цяжкасці, духоўную ноч, расчараванні, хваробы, страту сіл з-за пажылога ўзросту. Менавіта ў гэтым мы павінны знаходзіць «дасканалую радасць», навучыцца распазнаваць аблічча Хрыста, які стаў падобным да нас ва ўсім, навучыцца адчуваць радасць, калі бачым, што мы падобныя да таго, хто з любові да нас не адмовіўся ад крыжовых пакут".

*Аб ролі манаскага жыцця – на с. 5; аб сімволіцы свечак і духоўным перажыванні гэтага дня – на с. 4*

## Каляндар падзей

***31 студзеня***
*успамін св. Яна Боско.*

***2 лютага***
*свята Ахвяравання Пана (МБ Грамнічнай), блаславленне свечак. Сусветны дзень кансэкраванага жыцця.*

***3 лютага***
*блаславленне свечак у сувязі з успамінам св. Блажэя.*

***5 лютага***
*успамін св. Агаты, блаславленне вады і хлеба.*

## Запрашаем!

***Праграмы каталіцкай рэдакцыі:***

***"Голас Евангелля"***
*Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.* ***Кожную нядзелю ў 8.00*** *запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*

***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

***"Сімвал веры"***
*Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2"*
***2 лютага***
***ў панядзелак у 18.05***
*пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.*

## Інтэрнэт-апытанне
**www.grodnensis.by**

***Ці будзе, на Вашу думку, збаўлены чалавек, які не належыць да Рымска-Каталіцкага Касцёла, а вызнае іншую веру?***

- *так*
- *не*
- *цяжка сказаць*

**выкажыся**

## "Запэўніваю ўвесь беларускі народ у маіх малітвах" – папа Францішак



## III НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

**Мк 1, 14–20**

Пасля таго, як выдалі Яна, прыйшоў Езус у Галілею, прапаведуючы Евангелле Божае і кажучы, што настаў час і наблізілася Валадарства Божае: "Кайцеся і верце ў Евангелле".

Праходзячы ж каля Галілейскага мора, убачыў Сымона і Андрэя, брата Сымона, якія закідалі сеткі ў мора, бо яны былі рыбакамі. І сказаў ім Езус: "Ідзіце за Мною, і Я зраблю вас рыбакамі людзей". І, адразу пакінуўшы сеткі, яны пайшлі за Ім.

Адышоўшы крыху далей, Ён убачыў Якуба Зэбэдэевага і Яна, брата ягонага, якія таксама сядзелі ў чоўне і ладзілі сеткі. І адразу паклікаў іх. І, пакінуўшы бацьку свайго Зэбэдэя ў чоўне з работнікамі, яны пайшлі за Ім.

## ДАР ПАКЛІКАННЯ

Пакліканне часта асацыіруецца з пачуццём адрознення, быцця кімсьці лепшым. Каб разабрацца ў гэтай праблеме, трэба падумаць над абранасцю народа Ізраэля. Пан Бог паклікаў гэты народ не таму, што ён быў больш дасканалым ці каб ухваліць яго, але для выканання вельмі канкрэтнай місіі ў справе збаўлення: ён павінен быў падрыхтаваць свет і іншыя народы да прыйсця Збаўцы.

Часы, у якія мы жывём, пашырылі па ўсёй зямлі ідэю Божай абранасці. Бог заклікае хрысціян быць сведкамі Добрай Навіны – Евангелля, апавядаць іншым пра Яго бацькоўства і міласэрнасць над светам, закрытым у звычайная таямніцы смерці і ўваскрасення Езуса.

Разважаючы над Божым пакліканнем, нельга абмінуць вельмі важную яго якасць: яно неадменнае. Нельга ўцячы ад паклікання, зрабіць выгляд, што гэта мяне не датычыцца. Чалавечая слабасць часам прыводзіць на бездарожжа. Кожны грэх з'яўляецца здрадай пакліканню, але не скасоўвае яго. Які адсюль вынік? Ніколі, ні ў якіх абставінах Божае слова і абяцанні, змешчаныя ў ім, не губляюць сваёй моцы. А калі хто-небудзь упарта будзе спрабаваць перакрэсліць сваё пакліканне, ён павінен будзе лічыцца з наступствамі.

## IV НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

**Мк 1, 21–28**

У горадзе Кафарнауме Езус увайшоў у шабат у сінагогу і навучаў. І здзіўляліся вучэнню Ягонаму, бо Ён вучыў іх як той, хто мае ўладу, а не як кніжнікі.

І быў тады ў сінагозе чалавек, апанаваны нячыстым духам, які закрычаў: "Што Табе да нас, Езус Назаранін? Ты прыйшоў загубіць нас? Ведаю Цябе, хто Ты, Святы Божы". Але Езус забараніў яму, кажучы: "Змоўкні і выйдзі з яго". Тады дух нячысты, тарганууўшы яго і закрычаўшы моцным голасам, выйшаў з яго. І здзівіліся ўсе так, што пыталіся адзін у аднаго, кажучы: "Што гэта? Новае вучэнне, якое мае моц? Ён і духам нячыстым загадвае, і яны слухаюцца Яго". І адразу разышлася пра Яго чутка па ўсёй ваколіцы Галілеі.

## АДВАГА ПАТРЭБНА ЎЖО ЦЯПЕР!

Прымушае задумацца тое, адкуль часам у хрысціян бярэцца ўражанне нібы недаацэнкі ў сённяшнім свеце? Маючы ў руках скарб Евангелля, а ў сэрцах моц самога Збаўцы, мы адчуваем сябе "не на месцы", быццам мы камусьці перашкаджаем сваёй прысутнасцю. З пачуццём недарэчнасці мы спрабуем замаскіраваць сваю прысутнасць, паглыбіцца ў акружаючае нас асяроддзе. Так мы ўцякаем ад асноўнай адказнасці за перадачу Добрай Навіны. Наш Збаўца, навучаючы ў сінагозе ў Кафарнауме, не меў нават найменшых сумненняў наконт таго, як адрэагаваць перад нячыстым духам. Рашучае: "Змоўкні і выйдзі з яго" прынесла не толькі плён вызвалення ад злога, але і правільную рэфлексію ў сведкаў падзеі: гэта вучэнне, якое мае моц.

Як часта можна заўважыць, што мы як хрысціяне робім усё, каб не наступіць нікому на мазоль, нікога не ўдарыць. Гэта правільная пастава, калі гаворка ідзе пра культуру паводзін ці пра дробязі. Але ніколі, калі мы бачым перад сабой праявы прысутнасці злога. Перайманне Збаўцы – гэта рашучае супраціўленне граху, называнне зла па імені, дакладны заклік да навяртання. Эфектыўнасць такога супрацьстаяння злу гарантавана! Каб адчуць гэтую моц і набрацца ўпэўненасці, трэба пачаць з саміх сябе.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# Будзьце місіянерамі радасці Евангелля

СЛОВА РЭДАКТАРА



*Кс. Павел Салабуда*

Чарговы загаловак свайго рэдактарскага разважання я ўзяў з гамiліі Святога Айца Францішка, прамоўленай у Маніле падчас візіту на Філіпіны 18 студзеня. На плошчу Рызаль на супольную малітву прыбыло мноства філіпінцаў. Усе, безумоўна, чакалі ад Пятра нашага часу пастарскага слова, падказкі на чарговыя дні зямнога жыцця, каб яно было бласлаўлёнае Богам. Беручы пад увагу паўсюднасць Касцёла, мы разумеем, што словы Святога Айца скіраваны таксама нам.

Папа спачатку прыгадаў усім сабраным пра нашу тоеснасць, пра тое, што кожны з нас з'яўляецца Божым дзіцём. Тое, што мы члены Божай сям'і, абавязвае кожнага чалавека, незалежна ад таго, жыве ён у Беларусі ці на Філіпінах, захоўваць тоеснасць веруючага чалавека. Гэта не заўсёды атрымліваецца, бо д'ябал руйнуе нашае жыццё, робіць усё, каб сучасны чалавек забыўся пра сваё падабенства з Богам. Папа Францішак сказаў пра гэта наступным чынам: "Часам, калі мы бачым праблемы, цяжкасці і несправядлівасць вакол нас, узнікае спакуса паддацца ім. Здаецца, што абяцанні Евангелля не могуць рэалізавацца, што яны нерэальныя. Але Біблія гаворыць нам, што вялікай небяспекай для Божага плана аднасна нас ёсць і заўсёды быў падман. Сатана – бацька падману. Ён часта хавае свае сеткі за знешняй вытанчанасцю, за прывабнасцю быць «сучаснымі», быць «як усе». Ён рассейвае нашу ўвагу мімалётнымі прыемнасцямі, павярхоўнымі забавамі. Такім чынам мы растрачваем атрыманыя ад Бога дары, забаўляючыся гаджэтамі, марнатравім нашыя грошы на азарт і выпіўку, закрываемся ў сабе. Мы забываемся засяроджвацца на рэчах, якія на самой справе ўлічваюцца. Забываемся быць як дзеці. Таму што дзеці, як навучае нас Пан, маюць сваю асабістую мудрасць, якая не з'яўляецца мудрасцю свету. Таму менавіта паслання Дзіцятка Езус настолькі важнае для нас. Езус прамаўляе пранікнёна да ўсіх нас, прыгадвае нам пра нашу глыбокую тоеснасць – пра тое, да чаго мы пакліканы як Божая сям'я".

Пан Езус бласлаўляе кожнага з нас быць сведкамі радасці Яго Евангелля, быць апосталамі добрай, радаснай навіны. Мільёны філіпінцаў прынялі гэты заклік Папы. Я спадзяюся, што таксама і мільёны жыхароў Беларусі прымуць навуку Евангелля з радасцю, а затым стануць апосталамі добрай навіны для ўсіх, хто забыўся пра цудоўную евангелічную мелодыю ў сваім жыцці. Кожны з нас мае свае карані, сваю гісторыю жыцця, сваю сям'ю і сваё асяроддзе, а ўсіх нас яднае Евангелле, радаснае пасланне нованароджанага Езуса кожнаму з нас. Свету неабходны радасныя місіянеры Евангелля, больш таго, Беларусі неабходны такія людзі, якія, змяняючы сябе, змяняюць таксама аблічча зямлі.

Некаторыя з нас маюць няшмат прычын для радасці, у кагосьці іх больш, але мы ўсе заўсёды можам знайсці нагоду для радасці – яе дае нам Евангелле, пасля прачытання якога хочацца цешыцца жыццём Божага дзіцяці. Чалавек, які памятае пра гэта, кожны дзень будзе перажываць радасць Евангелля. Часам здаецца, што гэта можа быць толькі духоўная асоба ці той, хто "адрываецца" ад зямнога жыцця і стварае свой асабісты свет радасці. Аднак, мы забываемся, што ўсе можам перажываць такую радасць, напрыклад, падчас св. Імшы, калі чуем Божае слова, альбо падчас чытання Святога Пісання дома. Варта задумацца над тым, што Евангелле становіцца для нас пашпартам нашага жыцця, радасцю і апостальствам у штодзённасці. Давайце будзем апосталамі радасці Евангелля, сведкамі цуду прысутнасці Бога сярод людзей, прысутнасці Яго ў нашым жыцці.

# Суботнікі

## ДЭКАНАТ ІЎЕ




*Знешні выгляд святыні*

У пісьмовых крыніцах паселішча вядома з XV ст. як Геранёны Манівідавыя, у адрозненне ад Геранёнаў Гаштольдавых ці Мураваных (цяпер в. Геранёны) і Геранёнаў Старых (цяпер в. Зыгмунцішкі). Парафіяльны касцёл (з XVI ст. у складзе Радунскага дэканата) быў зафундаваны тут Войцехам Манівідам, віленскім ваяводам, яшчэ ў 1423 г. Новая драўляная святыня была пабудавана па фундацыі караля Жыгімонта I Старога 24 лістапада 1545 г., аднак у часы кальвінізму драўляны касцёл стаяў спустошаны, не маючы ўласнага пробашча. У 1573 г. князь Альбрэхт Радзівіл (+1592), першы ардынат клецкі, калі наварнуўся з кальвінізму ў каталіцызм, аднавіў касцёл у Суботніках і надзяліў святыню вялікім капіталам. Але і гэтая святыня не захавалася. У 1755 г. апошняя драўляная святыня ў Суботніках была пабудавана на сродкі Юрыя Абрамовіча, тагачаснага ўладальніка мястэчка, і яго жонкі Марыі. Касцёл быў асвечаны пад тытулам св. Юрыя. Гэта быў храм з сасны на каменным падмурку падоўжанай формы. Галоўны фасад у выглядзе трохвугольнага франтона на двух магутных калонах фланкавалі дзве трох'ярусныя чацвярыковыя вежы. Касцёл быў накрыты двухсхільным гонтавым дахам, завершаным над алтаром стромкай баракавай сігнатуркай. У 1809 г. па фундацыі Ганны Умястоўскай да прэсбітэрыя справа была дабудавана мураваная капліца памерамі каля 5x4 м, у склепе якой быў пахаваны маршалак Якуб Умястоўскі, муж фундаткі, а потым і іншыя прадстаўнікі роду. Побач з касцёлам стаяла таксама драўляная двух'ярусная вежа-званіца. На парафіяльных могілках знаходзіліся 4 драўляныя каплічкі. Пры парафіі дзейнічала школа.

У той час у драўляным алтары знаходзіўся вядомы сваімі цудамі абраз Маці Божай з Дзіцяткам Езусам у срэбнай пазалочанай сукенцы і ў кароне, упрыгожанай дыяментамі, жэмчугам і рубінамі. Абраз быў намаляваны на меднай дошцы, невялікі, сёння ён знаходзіцца ў



*Памятная таблiца ў гонар* ***Уладзіслава Умястоўскага***

другім ярусе левага бакавога алтара.

Традыцыю называць уласна ўзведзеную святыню ў гонар свайго нябеснага затупніка працягнуў у Суботніках чарговы ўладальнік мястэчка граф Уладзіслаў Умястоўскі (1834–1905). Разам з жонкай Янінай з роду Дунін-Раецкіх яны вырашылі пабудаваць тут ужо каменны касцёл. Падмурак заклалі ў 1900 г., а ў 1904 г. стромкая і велічная святыня ў неагатычным стылі ўзнесла высокі спічак над маляўнічым наваколлем. Новазбудаваны намаганнямі кс. Юзафа Мікелюнаса касцёл быў кансэкраваны 1 чэрвеня 1928 г. віленскім арцыбіскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім пад тытулам св. Уладзіслава, караля Венгерскага.

Касцёл у неагатычным стылі з вонкавай чырвонай цэглы ўзвялі ў цэнтры вёскі. Ён уяўляе сабой прамавугольны ў плане трохнававы абём з пяціграннай апсідай, фланкаванай дзвюма сакрыстыямі накшталт трансепта. Галоўны ўваход пазначаны высокай трох'яруснай вежай-званіцай пад васьмігранным спічаком. Касцёл накрыты адзіным двухсхільным дахам (калісьці быў гонтавым, сёння – бляшаны), больш нізкая апсіда – вальмавым, сакрыстыі – таксама двухсхільнымі. Трохвугольны франтон над алтаром завершаны ажурнай неагатычнай сігнатуркай.

● працяг у наступным нумары

# Дзе ёсць біскуп, там Касцёл

*Год таму ў катэдральным касцёле ў Гродне адбылося біскупскае пасвячэнне ксяндза прэлата Юзафа Станеўскага, прызначанага дапаможным біскупам Гродзенскай дыяцэзіі. З гэтай нагоды іерарх распавёў аб пастарскай паслузе, а таксама заданнях і адказнасці, якія ляглі на яго плечы.*

**1 лютага 2014 года Ваша Эксцэленцыя ўпершыню блаславіў вернікаў менавіта як біскуп. Як змянілася Ваша жыццё за гэты час? Чаго Вы дасведчылі ў біскупскім служэнні?**

– Гэта праўда, што 1 лютага 2014 года Пан звярнуўся да мяне праз паслугу папы Францішка з новым пытаннем: “Ці любіш ты Мяне?”. З гэтага моманту я яшчэ больш адчуваю Божую далонь, якая вядзе мяне цяпер па дарозе пастарскай паслугі.

Змены безумоўна адбыліся, прычым значныя, аднак я выконваю тыя самыя заданні, што і раней – з'яўляюся сведкам Евангелля сярод людзей.

Адказваючы на пытанне, што я дасведчыў, магу сказаць: Божы дотык. Я заўсёды адчуваю правую руку Пана, якая робіць мяне здольным даваць сведчанне. Будучы з паслугай у парафіях нашай дыяцэзіі, я адчуў неабходнасць духоўных праваднікоў, якіх чакаюць нашыя вернікі.

**Св. мучанік Ігнацы з Антыёхіі казаў: “Дзе ёсць біскуп, там Касцёл”. На працягу года Вы шмат разоў сустракаліся з вернікамі Гродзенскай дыяцэзіі, звярталіся да іх з прамовамі. Які ён зараз, Касцёл на Гродзеншчыне? Ці не гасне вера, ці адкрыты людзі на Божае слова?**

– За першы год маёй біскупскай паслугі я наведаў больш за 70 парафій (некаторыя нават два і больш разоў), сустракаўся з рознымі ўзроставымі групамі нашых вернікаў: на катэхезе, з нагоды сакраманту канфірмацыі, з моладдзю душпастарства “OPEN”. Гэтыя ў нейкай ступені афіцыйныя сустрэчы прыносяць чалавеку задавальненне і радасць. За ўсё гэта я ўдзячны Богу.

Я таксама меў магчымасць сустрэцца з вернікамі нашай дыяцэзіі падчас маёй першай біскупскай “каляды”. Па прыкладзе папы Францішка я ўвайшоў пад дахі


*Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі* ***Юзаф Станеўскі***

нашых вернікаў, наведаў хатнія касцёлы, каб разам з канкрэтнай сям'ёй схіліцца над таямніцай Божага Уцелаўлення. Гэта на самой справе іншы досвед, які заключаецца ў тым, што тут ёсць дыялог, ёсць пытанні і адказы. Чалавек, знаходзячыся ў сваім доме, адчувае сябе больш упэўнена, не саромеецца, што ў сваю чаргу дапамагае лепш пазнаць духоўны стан чалавека, дазваляе зайсці з ім туды, дзе ён знаходзіцца са сваімі поглядамі і ўзроўнем веры, каб агледзеўшыся, узяць яго за руку і накіраваць на шлях радасці Евангелля.

Сёння шмат гаворыцца пра шуканне Пана Бога, але рэдка можна сустрэць таго, хто на самой справе можа Яго паказаць. Таму я лічу, што людзі маюць праблемы з верай. Сучасны чалавек працуе над здабываннем “вады”, неабходнай для жыцця на зямлі. На жаль, ён пакідае ў занядбанні дух, які ўводзіць яго ў рэчаіснасць неба. Усё гэта можна пераадолець. Лякарствам супраць секулярызацыі і спажывецтва, а значыць супраць духоўнага паралiча, з'яўляецца ЛЮБОЎ.

**Што, на Ваш погляд, варта зрабіць для яшчэ больш дынамічнага развіцця Касцёла ў Беларусі? Якія формы евангелізацыі з'яўляюцца найбольш эфектыўнымі, улічваючы, што грамадства становіцца ўсё больш секулярызаваным і далёкім ад Бога?**

– Працягваючы папярэднюю тэму, я хацеў бы прыгадаць словы Езуса Хрыста: “Ідзіце і абвяшчайце Евангелле ўсяму свету”. Гэта значыць, што свету неабходна набліжаць радасць Евангелля, Божае Аб'яўленне. Беручы пад увагу дынамізм развіваючагася грамадства і пагоні за валоданнем, трэба сёння не паспяваць за светам, а быць, як вучыць Святы Айцец Францішак, правадніком. Мы павінны евангелізаваць – абвяшчаць Евангелле ў час і не ў час, выкарыстоўваючы сённяшнія арэапагі – тэлебачанне, радыё, інтэрнэт, газеты і вокны нашых гарадоў і вёсак. У сучасным каляровым і вясёлым свеце ўсё яшчэ не хапае колераў Евангелля і радасці жыцця, евангельскіх парад. Таму не толькі ў касцёле і не толькі духоўныя асобы маюць заданне абвяшчаць Евангелле, гэта абавязак усіх вернікаў. Трэба быць сёння святым Андрэем, які, сустрэўшы Хрыста, вяртаецца па свайго брата, каб і ён знайшоў дарогу да збаўлення.

Сустракаючыся з вернікамі, пра што я ўжо прыгадваў, я заўважыў, што чалавек яшчэ не да канца пазнаў радасць Евангелля, яму больш вядомы рэлігійныя забароны і рэкамендацыі, чым радасць быць Божым дзіцём з усім багаццем жыцця ў ласцы. Таму трэба зрабіць заняткі рэлігіі даступнымі не толькі для дзяцей і моладзі, але таксама для дарослых пры кожнай нагодзе, напрыклад, хрост дзяцей, І Камунія, канфірмацыя. Бацькі павінны вывучыць і здаць экзамен па тых самых тэмах, што і іх дзеці.

Тут я прагну таксама падзякаваць рэлігійным і свецкім сродкам масавай інфармацыі за перадачу Добрай Навіны нашаму грамадству. На маю думку, у кожнай газеце, у тым ліку і свецкай, павінна быць пастаянная рубрыка аб духоўным жыцці чалавека. Нават калі газета перадае далёка не рэлігійны змест, трэба накіраваць святло Евангелля на ўсе сферы чалавечага жыцця. У іншым выпадку хтосьці можа застацца ў цемнаце.


*Падчас душпастарскага візіту іерарха ў лідскай парафіі Узвышэння Святога Крыжа*

**Пасля намінацыі ў адным з інтэрв'ю Вы падкрэслілі, што сваім прыярытэтам лічыце дзяленне Божай любоўю з людзьмі. Што яшчэ праз сваю біскупскую паслугу Вы імкнецеся перадаць людзям?**

– Дазволю сабе невялікае адступленне. У спорце існуе эстафетны бег, калі ў адной камандзе ўдзельнічае некалькі асоб і кожны ведае, што ад яго здольнасцей і ўменняў, а таксама ад яго намаганняў залежыць гатунак медаля. Да таго ж, бегуны не могуць выпусціць эстафетную палачку, якая павінна перадавацца з рукі ў руку, бо інакш выступленне не будзе залічана. А таму тое, што я атрымаў падчас хросту, што было ўзмоцнена ў сакраманце пасвячэння – дар Божага жыцця – я павінен перадаць маім суайчыннікам. Я павінен таксама клапаціцца пра тое, каб гэты дар не быў зняважаны і неацэнены маладым пакаленнем, якое з'яўляецца нашай надзеяй.

**Восенню Вы сустракаліся з папам Францішкам. Святы Айцец тады заклікаў культываваць айцоўскі і пастарскі падыход у адносінах да сваіх святароў, заахвочваў прымаць усіх людзей, не дыскрымінуючы нікога, прапануючы кожнаму “цвёрдасць улады, якая спрыяе росту, і слодыч айцоўства, якое адраджае”.**

– Што ж, з хатнім заданнем цяжэй за ўсё. Я не ўтойваў радасці ад сустрэчы з папам Францішкам, але таксама слухаў наказ, які мы павінны выконваць у свеце як пастыры. Пры гэтым ніхто не забараняе нам праводзіць душпастарскі “эксперымент”. А таму падчас сустрэчы з добра выпіўшым мужчынам у яго доме, я спачатку спытаўся, з кім яму ўдалося выпіць, колькі ён можа выпіць, ці не баліць яму раніцай галава. Мужчына ахвотна адказаў на зададзеныя пытанні, але быў яшчэ ў стане падсумаваць і спытаўся, чаму я на яго не крычу і не палохаю пеклам? На што я пацікавіўся, чаму я павінен гэта рабіць. Ён адказаў: “Вы ж біскуп, у Вас такі абавязак”. На жаль, часам так думаюць і цвярозыя. Чалавек, які ні ў што не верыць, баіцца ўсяго. Таму трэба дадаць сучаснаму чалавеку адвагі стаць у праўдзе перад Богам, а Ён звернецца да нас і задасць пытанне, а таксама падкажа тады, калі мы не будзем арыентавацца з-за іншых галасоў.

**2015 год абвяшчаны ў Касцёле ў Беларусі Годам навяртання. На чым вернікам трэба засяродзіцца асаблівым чынам, каб плённа перажыць гэты год?**

– Навяртанне ў рэлігійным значэнні патрабуе кожны чалавек. Навяртанне з'яўляецца вяртаннем да першапачатковага стану ласкі – Божага сыноўства. Сёння многія захапляюцца здароўем, прыгажосцю, інтэлектам і талентамі, адцягваючы такім чынам сваю ўвагу ад крыніцы сапраўднага дабра, якое чалавек знаходзіць толькі ў Богу. Хтосьці сказаў: “Я баюся Пана, што праходзіць каля мяне”. Шмат гаворыцца пра шуканне Бога, але рэдка можна сустрэць тых, хто можа яго паказаць. Таму хачу пажадаць, каб у жыцці кожнага з нас сустрэўся той ці тое, што паказвае дарогу да навяртання.


*Кс. бп Юзаф з удзельнікамі Душпастарства студэнтаў і працуючай моладзі “OPEN” падчас аплаткавай сустрэчы*

**Што б Вы хацелі пажадаць чытачам “Слова Жыцця” на новы 2015 год?**

У 1968 годзе Луі Армстронг спяваў: “What a Wonderful World” – які цудоўны свет. Ён меў на ўвазе свет, створаны Богам. Таму я жадаю ўсім чытачам газеты “Слова Жыцця”, усяму рэдакцыйнаму калектыву на чале з галоўным рэдактарам кс. Паўлам Салабудам, каб мы разам стваралі гэты цудоўны Божы свет.

***Прашу ўсіх аб малітве і ад усяго сэрца блаславляю.***

***Кінга Красіцкая***



## Слова для Жыцця

### Папа Францішак



*Грамадства без мам было б нялюдскім грамадствам, таму што яны нават у найгоршыя хвіліны заўсёды здольны даваць сведчанне чуласці, самаадданасці, маральнай сілы. Мамы таксама часта перадаюць самы глыбокі сэнс рэлігійных практык: у першых малітвах, у першых жэстах пабожнасці, якім вучыцца дзіця, у чалавечае жыццё ўпісваецца каштоўнасць веры. Гэта пасланне, якое веруючыя мамы могуць перадаваць без розных тлумачэнняў: для іх будзе месца пазней, але семя веры знаходзіцца ў першых незвычайна цэнных хвілінах. Без мам не толькі не было б новых вернікаў, вера згубіла б многае са сваёй глыбокай і простай цеплыні.*

*Фрагмент катэхезы Святога Айца падчас генеральнай аўдыенцыі*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Хрост Езуса з'яўляецца для нас пасланнем. Ён нагадвае нам, кім і чые мы ёсць – а менавіта Божыя, бо ў сакраманце хросту мы становімся дзецьмі Божымі і членамі Касцёла, спадчыннікамі неба і святынямі Духа Святога. Дзякуючы хросту мы паміраем для граху і ўваскрасаем для жыцця ў Божай ласцы. Хрост становіцца падмуркам нашага духоўнага жыцця, брамай да жыцця ў Святым Духу, варотамі для доступу да ўсіх сакрамантаў. Калі мы прыходзім у касцёл, то апускаем пальцы ў асвечаную ваду і чынім знак крыжа. Чаму мы так паступаем? Гэты знак нагадвае нам наш хрост. Так паступаючы, мы павінны памятаць аб тым, што мы, адкупленыя крыжовай смерцю і ўваскрасеннем Хрыста, з'яўляемся дзецьмі Божымі.*

*Хрост Езуса таксама нагадвае нам нашу місію: думкамі, словамі і дзейнасцю пацвярджаць нашу хрысціянскую тоеснасць і годнасць. Гэта азначае, што планы, думкі і клопаты Езуса павінны быць нашымі планамі, думкамі і клопатамі.*

*Фрагмент гаміліі на свята Хросту Пана*




◆ *У многіх мусульманскіх краінах пасля змяшчэння карыкатур на прарока Мухамеда ў “Charlie Hebdo” на вуліцы гарадоў выйшлі ісламскія фундаменталісты, якія вылілі сваё абурэнне і злосць на касцёлах і выпадкова сустрэтых хрысціянах. Так, напрыклад, у горадзе Зіндэр у Нігеры спалена 10 касцёлаў розных веравызнанняў, а таксама школа, якой кіравалі місіянеры. Падобныя мусульманскія маніфесты адбыліся таксама ў Пакістане, Маўрытаніі, Алжыры, Турцыі, Іарданіі, Сірыі, Судане, Тунісе і Ерузалеме.*

◆ *У Славакіі 7 лютага бягучага года адбудзецца рэферэндум, на якім славакі павінны вырашыць, якая мадэль сям’і будзе ў гэтай краіне: перамога традыцыйная мадэль сям’і ці гомасексуальныя пары таксама атрымаюць права называцца сям’ёй. Славацкі “Саюз для сям’і” звяртаецца да арганізацый, устаноў і прыватных асоб з просьбай аб малітве і падтрымцы ў антыгомасексуальнай кампаніі.*

◆ *Вучоныя з Ірана пераклалі Катэхізіс Каталіцкага Касцёла на мову фарсі, якая з’яўляецца сучаснай перскай, афіцыйнай мовай у Іране і Афганістане. Праца над перакладам адбывалася ва ўніверсітэце Грыгарыянум. Пераклад здзейснілі тры іранскія вучоныя, што належаць да ўніверсітэта рэлігіі і веравызнанняў у горадзе Кум. Пераклад уключае таксама ўводзіны кардынала Турана. Паводле вучоных, ідэя перакладу Катэхізіс з’явілася ў сувязі з жаданнем пазнання навукі каталіцкага Касцёла.*

◆ *Паводле апошніх статыстык, якія падаў сакратар Місійнай камісіі епіскапата Польшчы, на сённяшні дзень 2065 польскіх місіянераў і місіянерак абвяшчаюць Евангелле ў 97 краінах па ўсім свеце. Найбольш польскіх місіянераў нясуць паслугу ў Афрыцы ў такіх краінах, як Камерун, Замбія, Мадагаскар, Танзанія, Дэмакратычная Рэспубліка Конга, Руанда. Сярод іх 375 манахаў, 355 манахінь, 80 дыяцэзіяльных ксяндзоў і 31 свецкая асоба.*

◆ *Падчас пералёту са Шры-Ланкі на Філіпіны папа Францішак падаў журналістам тэрмін, калі з’явіцца чарговая энцыкліка. Тое, што Святы Айцец працуе над энцыклікай, якая будзе прысвечана ахове асяроддзя, убогасці, кліматычным зменам і адносінам чалавека да прыродных рэсурсаў, было вядома ўжо па меншай меры з пачатку мінулага года. Аднак, не была вядома дата яе выхаду. Святы Айцец паведаміў, што яна будзе гатова ў чэрвені ці ліпені.*

*Katolik.ru; pch24.pl; gosc.pl.*

***Кс. Ян Раманоўскі***

# Святло для свету

**Каталіцкі Касцёл на Гродзеншчыне і ва ўсім свеце 2 лютага адзначае ўрачыстасць Ахвяравання Пана.**

Гэтае свята на працягу стагоддзяў змяніла не толькі сваю назву, але і характар. Раней літургія дня гаварыла аб ачышчэнні Найсвяцейшай Панны Марыі. Сёння ж у гэты дзень акцэнт робіцца на асобу Езуса Хрыста, які з’яўляецца “святлом свету” і “святлом для асвятлення язычнікаў”, як назваў Яго старац Сімяон. Ці як гаворыць у Евангеллі св. Ян, Хрыстос – “святло праўдзівае, якое асвячае кожнага чалавека, які прыходзіць на свет” (Ян 1, 9).

Святло існуе не для таго, каб глядзець на яго, бо можна аслепнуць, вочы баляць і слязяцца, а пасля такога сеанса ўзірання ў святло, чалавек нічога не бачыць. Святло існуе для таго, каб асвячаць усё навокал, каб з яго дапамогай мы маглі выразна бачыць, рухацца, чытаць, выконваць нашы штодзённыя заняткі, жыць нармальна. Без святла мы жывём у цемры і нічога не бачым. Нават самыя прыгожыя прадметы не могуць быць успрыняты, імі нельга палюбавацца, яны гінуць у цемры. Святло існуе для таго, каб я лепш бачыў, каб лепш і разумней жыў. Каб мае вочы ўбачылі сэнс і значэнне майго жыцця і маёй смерці, каб я ўбачыў, што я не адзін у свеце, што ў ім ёсць яшчэ іншыя людзі, мае браты. Але святло існуе і для таго, каб я заўважыў, дзе знаходзіцца канчатковая мэта і сэнс майго жыцця, каб пры дапамозе гэтага ж святла “мае вочы ўбачылі Збаўленне”. Каб яно асвяціла мяне і я не быў цёмным і адсталым, бо інакш я буду блукаць навобмацак і жыць у змроку.



Касцёл, паводле паданняў, адзначаў гэтае свята ўжо ў IV стагоддзі. У нашай традыцыі яно называлася, а многія і цяпер яго так называюць, святам Маці Божай Грамнічнай. Пачынаючы з IX стагоддзя, вернікі ў гэты дзень прыносяць у касцёл свечкі для блаславлення, якія называюць грамнічнымі. Працэсія з запаленымі свечкамі на пачатку літургіі з’яўляецца знакам новага руху праз жыццё ў адзінстве з Езусам. Некалі грамнічныя свечкі абавязкова рабілі з пчалінага воску, і пасля таго, як іх запальвалі, дом напаўняўся цудоўным пахам. Асвечаную ў касцёле запаленую грамніцу стараліся занесці дадому, каб ад яе распаліць агонь, які павінен быў абвяшчаць згоду і любоў у сям’і. З запаленай свечкай абыходзілі ўсю гаспадарку, каб адпалохаць зло. Асвечаную свечку, як знак Божага святла, запальвалі ў складаныя моманты: падчас буры яе ставілі на акне, ёй адпалохвалі град, яе дымам крэслілі знак крыжа на дзвярах, печы і вокнах, што павінна было стаць “заслонай” супраць няшчасцяў і зла. Запальванне грамніцы і ўкладванне яе ў рукі паміраючага азначала, што па прыкладзе “мудрых паннаў” ён з запаленым светачам выходзіць насустрач свайму Абранніку. Грамнічныя свечкі захоўвалі ў годным месцы і выкарыстоўвалі толькі для рэлігійных мэт.

Са святам Маці Божай Грамнічнай звязана таксама легенда, якая расказвае пра тое, як Маці Божая адганяла святлом грамніцы чараду ваўкоў ад дамоў. Такі сюжэт мы можам сустрэць на старых абразах ці свечках. У народнай традыцыі разам з урачыстасцю Маці Божай Грамнічнай заканчваецца спеў калядак, разбіраюць шопкі і ёлкі. Літургічны перыяд Божага Нараджэння заканчваецца раней, у свята Хросту Пана, аднак гэты звычай мае сваё пацвярджэнне не толькі ў традыцыі, але і ў тым, што ва ўрачыстасць Ахвяравання Пана Езус яшчэ Дзіцяткам быў прадстаўлены ў святыні.



Традыцыя гэтага свята з’яўляецца прыкладам вернасці ў нашых сем’ях. Звышнатуральная сфера застаецца для людзей жывой, а асвечаныя прадметы прыгадваюць, што ўсё чалавечае жыццё праходзіць пад позіркам Бога. Святло грамнічнай свечкі павінна спадарожнічаць чалавеку ажно да смерці, калі за парогам зямнога жыцця ён сустрэнецца са Стварыцелем – Хрыстом.

Таму просім Бога, каб святло нашай веры было як святло гэтых свечак, якія мы будзем трымаць у руках. Каб яно асвячала нашае жыццё і ззяла іншым, каб, ідучы за ім, мы дайшлі да Хрыста.

***Дк. Часлаў Ладыка***

# Пастухі – першыя наведвальнікі Езуса

*Вакол Бэтлеема раскінуліся прасторныя пашы, дзе ў час нараджэння Езуса пастухі ноччу вартавалі свае статкі, каб які звер не ўбіўся ў статак і не нарабіў шкоды. “І з’явіўся ім анёл Пана, і хвала Пана асвяціла іх, і вялікі страх ахапіў іх. І сказаў ім анёл: «Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе для ўсяго народу, бо нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давіда Збаўца, які ёсць Хрыстус Пан. І вось вам знак: знойдзеце Немаўля спавітае і пакладзенае ў яслях». Раптам з анёлам з’явілася вялікае войска нябеснае, якое праслаўляла Бога і ўсклікала: «Хвала на вышынях Богу, а на зямлі спакой людзям добрай волі»” (Лк 2, 9–14).*




Сцэны з’яўлення анёла і нябеснага войска пастухам, а таксама наведвання пастухамі Дзіцятка адлюстраваны многімі мастакамі ў сваіх творах, што, у сваю чаргу, надрукавана на шматлікіх паштовых марках розных краін. Пошта Новай Зеландыі на сваёй марцы 1963 г. адлюстравала рэпрадукцыю карціны Тыцыяна “Святая Сям’я”, на якой анёл абвяшчае добрую навіну пастухам, а на пярэднім плане адзін з пастушкоў ужо ўшаноўвае Дзіцятка.

Людзі па прадказанні прарокаў з нецярпеннем чакалі прыходу Месіі. Таму не дзіўна, што пастухі, пакінуўшы статак, пабеглі ў Бэтлеем: “Калі анёлы адышлі ад іх на неба, пастухі сказалі адзін аднаму: «Пойдзем у Бэтлеем і паглядзім, што там сталася і пра што абвясціў нам Пан». І пайшлі яны, спяшаючыся, і знайшлі Марыю і Юзафа, і Немаўля, якое ляжала ў яслях” (Лк 2, 15–16). А калі ўбачылі, то расказалі ўсім, адкуль яны даведаліся, што нарадзіўся Хлопчык. Усе, пачуўшы гэта, былі вельмі здзіўлены тым, што пастухі расказалі ім. А Марыя захоўвала ўсе гэтыя словы, складаючы ў сэрцы сваім. Пастухі вярнуліся да свайго статка, праслаўляючы і ўсхваляючы Бога за ўсё, што яны чулі і бачылі, у адпаведнасці з тым, што ім было сказана.



Сцэну наведвання пастухамі Дзіцятка намаляваў у сваёй працятай трапятаннем карціне Карэджа, італьянскі жывапісец эпохі Высокага Адраджэння. А пошта Рэспублікі Малагасы, што на востраве Мадагаскар, адлюстравала яе на сваёй марцы. Нованароджаны Хрыстос азарае карціну чароўным святлом, святлом такім яркім, што жанчына ля Яго ног прымушана засланяць вочы ад гэтага асляпляльнага ззяння. Кій пастуха вядзе погляд гледача ў глыб кампазіцыі, накіроўваючы яго ўгору, да анёлаў, якія, у сваю чаргу, паказваюць уніз, на Немаўля.

Сёння мы паўсюдна бачым шопкі – ідылічную, салодкую карцінку, якая паўтараецца ў шматлікіх сцэнках Раства, якія паказваюць падчас свят. Гэтыя інсцэніроўкі ідэальна падыходзяць для святочнага настрою, у якім мы знаходзімся ў гэты тыдзень. Аднак, ці не губляем мы таго, што адбылося ў рэчаіснасці? Яўрэі на працягу стагоддзяў чакалі (і яшчэ ўсё чакаюць) прыходу Месіі. Ад Звеставання адбываліся падзеі, якія паказвалі, што гэта незвычайнае Дзіця. Калі Яно нарадзілася, анёл паслаў да Яго пастухоў, кажучы ім, што адбылося. Яны пайшлі, знайшлі Дзіцятка, расказалі аб гэтым іншым. Складваецца ўражанне, што нечага пры апісанні гэтай падзеі ў Бібліі не хапае. Нібы штосьці прапушчана. Чаму навіна не распаўсюдзілася па ўсім Бэтлееме? Нарадзіўся Збаўца, а большасць паводзіць сябе так, быццам нічога не здарылася! Напэўна, яўрэі чакалі, што Месія з’явіцца ў залатой калясніцы, якая спусціцца з неба, ці яшчэ якім-небудзь дзівосным, але адпаведным падзеі спосабам. Нараджэнне ў стайні ніяк не адпавядала іх чаканням.

Ці не жывём мы такімі самымі пачуццямі? Молімся, просім Бога дапамагчы і чакаем цуду. Ён пасылае нам людзей, якія гатовы дапамагчы, але мы не звяртаем на іх увагі, таму што чакаем анёла. Гэта як у тым анекдоце, калі людзі, уцякаючы ад паводкі, хочуць забраць з сабой святара, але ён адмаўляецца, гаворачы, што верыць у Божую дапамогу. Так, адмовіўшыся




ад дапамогі яшчэ некалькі разоў, святар урэшце тоне, і стаўшы перад Богам, з крыўдаю гаворыць Яму: “Я так верыў у Цябе, і што?” А Бог на гэта: “Я тры разы пасылаў табе дапамогу, дык чаму ж ты не выкарыстаў яе?”

У 2005 г. пошта Бразіліі выпусціла прыгожы блок з рэпрадукцыяй карціны мастака Оскара Перэйры дэ Сільва. Пастухі ўшаноўваюць Дзіцятка ў яслях, а на полі блока мы бачым Бэтлеемскую зорку і трох вандроўнікаў, якія рухаюцца за ёю. Хто яны? У левым куце бачым, што гэта тры Каралі – тыя, каму належыць наступнымі наведаць Збаўцу.

***Лявон Карповіч***

# "Мы павінны не толькі гаварыць пра Езуса, але і паказваць Яго, даючы сведчанне веры і любові"

*Так акрэсліваюць сваю ролю кансэкраваныя асобы. Іх жыццё – гэта найбольш спецыфічная, а таму таксама найбольш незвычайная форма пакліканння, якую Бог прапануе чалавеку на гэтай зямлі. Кансэкраваная асоба – гэта хтосьці пакліканы асаблівым чынам пераймаць Хрыста і аддаваць Яму сябе ўсім сэрцам (параўн. 1 Кар 7, 34).*



**Сястра Марыя Магдаліна Кулай**
*сястра кармелітка ад Дзіцятка Езус*

Я пайшла ў кляштар, паколькі яшчэ з дзяцінства хацела служыць Богу, менавіта такой бачыла сваю асноўную ролю ў жыцці. Усім сэрцам я адчувала гарачую патрэбу прысвяціць сваё жыццё Хрысту, я дакладна ведала, што гэтая служба – тое, чаго я шукаю і прагну. Такім чынам я набралася адвагі і вырашыла пайсці за Езусам. Яго любоў паклікала мяне і павяла гэтым шляхам.

На дадзены момант мая асноўная місія палягае на катэхізацыі. У трох парафіях я вяду заняткі рэлігіі, рыхтую малодшых вернікаў да Першай святой Камуніі, а таксама праводжу катэхезу для моладзі, якая прыступае да сакраманту канфірмацыі. Маё асноўнае заданне – найменшых прывесці да Бога, расказаць ім пра Стварыцеля, паказаць шлях да Хрыста, умацаваць у веры.

На маю думку, роля кансэкраванай асобы перш за ўсё заключаецца ў тым, каб адкрыўшы любоў Хрыста, ісці гэтым шляхам, а таксама весці іншых. Бо Езус, калі паклікаў за сабой вучняў, наказаў ім не толькі самім ісці следам, але таксама іншых прыводзіць да Яго. Адкрываючы сваё пакліканне, я адкрываю таксама сваю ролю: збавіць сябе і іншага чалавека, весці людзей да Бога.

У сённяшні час перад кансэкраванымі асобамі стаіць шмат выклікаў. Па-першае, мы жывём у дастаткова складаным свеце. Адной з самых актуальных праблем з'яўляецца праблема адказу на Божы выбар і заклік. Сучасны чалавек мае іншыя жаданні, ён імкнецца да абсалютнай свабоды без адказнасці, клапоціцца не пра духоўнае, а пра матэрыяльнае. Зараз Бог ужо не знаходзіцца на тым узроўні, што быў раней. Людзі губляюць асноўныя жыццёвыя вартасці, таму заданне кансэкраваных асоб – умацоўваць у людзях тое духоўнае, што яшчэ ў іх засталося, нанава абуджаць веру. Але гэта нялёгкая справа. Хоць зараз няма перашкод для таго, каб хадзіць у святыню, адкрыта дэманстраваць сваю веру, людзі цураюцца Бога. І калі ў часы ганенняў духоўныя асобы былі для веруючых падтрымкай, то зараз яны павінны склікаць людзей у касцёл.

Кожны год у Дзень кансэкраванага жыцця наша супольнасць збіраецца разам. Гэта цудоўная магчымасць не толькі сустрэцца, але, гледзячы адзін на аднаго, яшчэ больш умацавацца. Дзякуючы такім сустрэчам я бачу, што акрамя супольнасці, у якой жыву, ёсць яшчэ іншыя. І хоць прадстаўнікі розных супольнасцей маюць розных заснавальнікаў, жывуць у розных харызмах, маюць свае абавязкі, яны аб'яднаны агульнай мэтай: поўнасцю прысвячаць сябе Богу і служэнню людзям.



**Айцец Антоній Пажэцкі OFMConv**
*пробашч парафіі Маці Божай Анёльскай у Гродне (францішканскі касцёл)*

Я адчуў сваё пакліканне яшчэ ў дзяцінстве. У той час я хадзіў у францішканскую святыню, чытаў шмат літаратуры, прысвечанай святому Францішку і святому Максімільяну Кольбэ. Асобы гэтых святых асаблівым чынам паўплывалі на мой жыццёвы выбар, аб чым я ніколі не шкадаваў. Я вельмі цешуся, што магу служыць святаром і належаць менавіта да манаскага ордэна францысканцаў. Таксама важную ролю ў выбары маёй жыццёвай дарогі адыгралі духоўныя асобы, якія неслі сваю паслугу ў парафіі Маці Божай Анёльскай. Яны сваёй паставай, аддансцю і верай з'яўляліся для мяне прыкладам.

Калі казаць пра ролю манаскага жыцця, то я бачу яе перш за ўсё ў тым, каб пачуўшы Божы заклік, старацца адказваць на яго належным чынам. Кансэкраванай асобе трэба кожны дзень пацвярджаць той выбар, які яна аднойчы зрабіла і афіцыйна пацвердзіла ў храме, трэба захоўваць вернасць манаскім абяцанням. Святы Францішак казаў, што вобраз, стыль жыцця францысканцаў заключаецца ў тым, каб жыць паводле Евангелля. Свет, у якім жывуць людзі, можа змяняцца, а Евангелле заўсёды актуальнае. Я лічу, што асобы, якія прысвяцілі сваё жыццё Богу, становячыся манахамі і манахінямі, яшчэ раз павінны сабе і іншым людзям паказаць актуальнасць Евангелля і ў сённяшні час. Наша жыццё павінна быць узорам і прыкладам таго, што сёння неабходна жыць згодна з Божым словам. Мне падаецца, што не варта прыдумваць нешта новае, трэба перш за ўсё старацца будаваць свет вакол нас у адпаведнасці з вучэннем Хрыста. Трэба не толькі слухаць Божае слова і разважаць над ім, але яшчэ паказаць, што гэтым Словам можна кіравацца ў штодзённым жыцці.



**Сястра Марлена JSSM** (злева)
*Шанштацкі Інстытут Сясцёр Марыі*

У маёй кансэкрацыі самым важным для мяне з'яўляюцца мае асабістыя адносіны з Богам. У гэтых адносінах ёсць два моманты: Божы заклік і тое, што я яго чую, а таксама мой адказ на гэты заклік.

Кожная кансэкраваная асоба некалі здзейсніла гістарычны факт: пачула голас Бога і адказала Хрысту "так". Аднак, адносіны з Богам нельга раскласці ад пачатку да канца. Заклікі заўсёды новыя, таму нічога нельга запланаваць, трэба кожны дзень прысвячаць сябе служэнню Езусу. Кансэкрацыя ў жыцці жанчыны застаецца таямніцай абмену любоўю: жанчына хоча адчуваць і адчувае сябе любімай Богам, а дзякуючы гэтаму яна здольна любіць іншых. Інакш кажучы, манаская сястра ўкладвае ўсё сваё сэрца і ўвесь энтузіязм у тых, за каго моліцца ці да каго паслана ў межах атрыманай харызмы.

У сучасным свеце чалавек не хоча мець абавязкаў, яму не хапае адказнасці скончыць пачатае. А я сваім жыццём хачу паказаць, што вернасць Хрысту магчымая. Сёння свет вельмі секулярызаваны: чалавек можа ўсё растлумачыць, усё купіць, Бог яму не патрэбны. А таму перад кансэкраванай асобай стаіць задача несці Бога ў гэты свет.

Айцец Юзаф Кэнтэніх, заснавальнік Шанштацкага руху, да якога я належу, хацеў мець сясцёр, якія былі б поўнасцю аддадзеныя Богу і адначасова знаходзіліся побач з іншым чалавекам, былі нібы мастом паміж Богам і светам. Наша задача – напаўняючыся Божай любоўю і дабрынёй, дзяліцца імі з іншымі.

Пакліканне з'яўляецца таксама выключным заданнем, якое патрабуе дысцыпліны, мудрасці, каб трываць у сувязі з Богам, а праз сваю праўдзівасць даваць сучаснаму чалавеку сведчанне і весці яго на Божую дарогу.

*Кінга Красіцкая*

## З каталіцкага друку

**Nasz Dziennik**

### *Навейшы Сусветны спіс праследаванняў*

***Міжнародная хрысціянская арганізацыя "Open Doors" апублікавала новы Сусветны спіс праследаванняў на 2015 год. У рэйтынгу знаходзіцца 50 краін, дзе адбываюцца найбольшыя ганенні на хрысціян і іх дыскрымінацыя.***

*Першыя дзесяць краін, дзе больш за ўсё праследуюць хрысціян, не абуджаюць ніякіх сумненняў. На працягу многіх гадоў першае, бясслаўнае месца займае таталітарны камуністычны рэжым – Паўночная Карэя. На другім месцы знаходзіцца Самалі, затым Ірак, Сірыя, Аўганістан, Судан, Іран, Пакістан, Эрытрэя і Нігерыя. Між іншым, усе краіны, за выключэннем першага і дзясятага месца, з'яўляюцца краінамі ісламу, як суніцкага, так і шыіцкага.*

**Catholic.by**

### *Археолагі знайшлі месца суда над Езусам?*

***Многае паказвае на тое, што побач з вежай Давіда ў Ерузалеме вучоныя знайшлі рэшткі палаца Ірада, г.зн. месца, дзе Хрыстос быў асуджаны на смерць.***

*Адкрыццё адбылося, калі ўлады гарадскога музея, што знаходзіцца ў вядомай цытадэлі Давіда, вырашылі пашырыць плошчу экспазіцыі. Тады яны загадалі правесці археалагічнае даследаванне ў суседнім з вежай пустуючым будынку. У час Асманскай імперыі там была турма. Аднак ніхто не спрабаваў даведацца, што знаходзіцца пад падлогай колішніх падзямелляў.*

*Група археолагаў, якая праводзіла даследаванні, натыкнулася на рэшткі іншага, больш старажытнага будынка. Гэта аказаліся сцены палаца вядомага з Бібліі караля Ірада. Згодна з Новым Запаветам, менавіта там павінен быў адбывацца суд над Хрыстом.*

**eKai.pl**

### *Шры-Ланка мае свайго першага святога*

***Папа Францішак далучыў да ліку святых бл. Юзафа Ваза – місіянера індыйскага паходжання, які абвяшчаў Евангелле і выконваў святарскую паслугу на колішнім Цэйлоне.***

*Урачыстасць адбылася на тэрыторыі парку Галле-Фэйс-Грын у Каломба, дзе дваццаць гадоў таму яго беатыфікаваў св. Ян Павел ІІ. "Мы пакліканы, каб выходзіць з такім жа запалам, такой жа адважнасцю, якія меў св. Юзаф, але таксама з яго чуллівасцю і павагай да іншых, з яго жаданнем дзяліцца словамі ласкі, якія маюць павучальную сілу", – сказаў Папа.*

*На заканчэнне ён заахвоціў католікаў "ідучы за прыкладам святога Юзафа Ваза, узмацняцца ў веры і ўсё больш спрыяць супакою, справядлівасці і еднасці ў грамадстве Шры-Ланкі.*

*Кінга Красіцкая*

## Кс. бп Юзаф Станеўскі наведаў Беняконі ў свята Хросту Пана

***Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі разам з парафіянамі касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Беняконях дзякаваў за атрыманае праз ласку хросту Божае сыноўства.***

Па словах іерарха, свята Хросту Пана было абрана для супольнай малітвы не выпадкова, бо ён пажадаў разам з парафіянамі адчуць "жывое паветра веры" пры хрысцільні парафіяльнага касцёла, адкуль распачалі жыццё верай дзясяткі тысяч чалавек, пачынаючы з 1634 г.

Кс. бп Юзаф заахвоціў маладых сужэнцаў і ўсіх вернікаў надаваць сваім дзецям падчас хросту імёны святых і благаслаўлёных нашай зямлі, каб гэтым забяспечыць дзецям святога апекуна, які будзе заступнікам перад Богам і прыкладам таго, як ісці за Панам у сучасным свеце.

Звяртаючыся да хросных, біскуп нагадаў пра іх абавязак дапамогі бацькам у выхаванні маладога пакалення ў веры Касцёла, дадаўшы, што найбольш паспяхова гэта можна зрабіць праз прыклад жыцця паводле евангельскіх парад.

## Марыя – Маці і ўзор жыцця

***Пад такім дэвізам у араторыі імя бл. мучанікаў з Познані ў Дзятлаве былі арганізаваны канікулы для дзяцей.***

Кожны дзень на працягу тыдня дзеці сустракаліся на ранішняй святой Імшы. Пасля іх чакала спецыяльная праграма ў араторыі. Апрача сумесных гульняў, дзецям кожны дзень паказвалі сцэнкі з жыцця Маці Божай, пасля чаго ўдзельнікі лагера разважалі ў групах над іх зместам.

Кандыдаты ў аніматары забаўлялі дзяцей танцамі, гульнямі і сумеснымі паходамі.



## Малітва маленькіх дзяцей – "Езу, будзь маім Брацікам..."

***У Гродне адбылася святочная аплаткавая сустрэча, а разам з ёй і адкрыццё дзіцячай школы "Маленькая Айчына". Школа заснавана ў 2014 годзе пры інфармацыйна-адукацыйным турыстычным цэнтры "Сентыментальная вандроўка".***




Сустрэча распачалася ўрачыстай св. Імшой у касцёле Звеставання НПМ. Усе прысутныя маліліся за дзяцей, якія наведваюць школу, іх бацькоў, за хворых і пакінутых дзяцей, за жанчын, якія чакаюць нараджэння сваіх дзетак.

Падчас Імшы разам з кс. Антоніем Грэмзам маліліся самыя малодшыя ўдзельнікі – дзеці ад 4 гадкоў і вучні пачатковых класаў. Ужо з гэтага ўзросту яны вывучаюць польскую мову, асновы культуры і рэлігіі.

Пасля св. Імшы кс. Антоній расказаў дзеткам пра каталіцкую калядную традыцыю – дзяленне аплаткай і складанне ўзаемных пажаданняў. Святар падкрэсліў, што гэтая святочная сустрэча дзіцячай школы – першая і з яе пачынаецца гісторыя "Маленькай Айчыны".

## Ксёндз прэлат Ежы Лявінскі адзначыў 85-гадовы юбілей

***Ксёндз прэлат з першых гадоў існавання семінарыі і да сённяшняга дня выкладае розныя навуковыя дысцыпліны і з'яўляецца самым старэйшым выкладчыкам кананічнага права ў семінарыі.***



Падчас святой Імшы з нагоды юбілею ксёндз прэлат распавёў пра цяжкасці і асаблівасці фарміравання клерыкаў на працягу гадоў існавання семінарыі, а таксама падзяліўся сваім багатым святарскім досведам – амаль 60 год святарскай паслугі ад Польшчы праз Урал да Казахстана.

Варта таксама ўзгадаць, што вясною адзначыць свой 85-гадовы юбілей ксёндз Тадэвуш Вышынскі, які больш за дваццаць гадоў з'яўляецца выкладчыкам тэалогіі, а таксама касцёльнай музыкі і спеваў.

## Святы Айцец прывітаў беларускі народ

***Папа Францішак скіраваў прывітальную тэлеграму з борта самалёта падчас знаходжання ў паветранай прасторы Беларусі 19 студзеня.***




"Я пасылаю сардэчныя прывітанні Вашай Эксцэленцыі, пралятаючы над краінай на маім шляху з Філіпін у Ватыкан. Запэўніваю Вас і ўвесь беларускі народ у маіх малітвах, просячы для Вас аб Божых ласках міру і дабрабыту", – напісаў Пантыфік у традыцыйнай тэлеграме на імя Прэзідэнта.

## У Гродне пройдзе сустрэча кансэкраваных асоб

*3 лютага з нагоды Дня кансэкраванага жыцця, які штогод адзначаецца ў свята Ахвяравання Пана, у Гродне пройдзе сустрэча кансэкраваных асоб, на якую запрашаюцца манаскія сёстры, браты і айцы з усёй дыяцэзіі.*



**План сустрэчы:**

10.30 – канферэнцыя і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту *(рэктаральны касцёл Звеставання НПМ (пабрыгідскі)).*

12.00 – святая Імша ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя, якую ўзначаліць біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.

## Вышэйшая духоўная семінарыя ў Гродне адзначае юбілей

*Святкаванне 25-гадовага юбілею распачнецца 16 лютага. На юбілейную сустрэчу запрашаюцца ўсе святары, якія нясуць паслугу ў Гродзенскай дыяцэзіі.*

У юбілейнай сустрэчы прыме ўдзел Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, які 1 верасня 1990 года паклікаў да існавання гэтую навучальную ўстанову. Падчас сустрэчы арцыбіскуп скіруе слова да навучэнцаў і святароў семінарыі, а на святой Імшы прамовіць гамілію. Падчас Эўхарыстыі прысутныя духоўныя асобы будуць дзякаваць Пану Богу за 25-годдзе існавання семінарыі і 25 гадоў пастарскай паслугі арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча.

***Пачатак сустрэчы запланаваны на 10.00, а святая Імша ў капліцы семінарыі – на 12.00.***

## Дэкрэт аб адпустах у Гродзенскай дыяцэзіі ў Год кансэкраванага жыцця

*Дбаючы пра духоўнае дабро вернага люду Гродзенскай дыяцэзіі, кс. бп Аляксандр Кашкевіч пастанавіў, што святымі месцамі, за наведванне якіх можна атрымаць поўны адпуст у Год кансэкраванага жыцця, будуць:*

**Катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя ў Гродне**
**Касцёл Маці Божай Анёльскай у Гродне**
**Санктуарый Маці Божай Суцяшальніцы засмучаных у Барунах**
**Касцёл Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы**
**Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дзятлаве**
**Санктуарый Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі**
**Касцёл св. Юзафа Каласанса ў Лідзе (Індустрыяльны)**
**Касцёл св. Казіміра ў Ліпнішках**
**Рэктаральны касцёл Перамянення Пана ў Навагрудку**
**Касцёл св. апостала Андрэя ў Слоніме**
**Касцёл св. Міхала Арханёла ў Смаргоні**
**Санктуарый Маці Божай Фацімскай у Шчучыне**
**Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў Шылавічах**
**Касцёл Божай Міласэрнасці ў Воранаве**

*Адпуст у гэтых месцах атрымаюць вернікі, якія ва ўсе дні Года кансэкраванага жыцця публічна прамовяць Літургію гадзін або на працягу адпаведнага прамежка часу будуць практыкаваць пабожныя разважанні, якія павінны быць скончаны Малітвай Панскай, вызнаннем веры ў любой прынятай форме і пабожнымі заклікамі да Найсвяцейшай Панны Марыі.*

***Гэты дэкрэт дзейнічае на працягу ўсяго Года кансэкраванага жыцця.***

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### *Ці ёсць пры ўваходзе ў Вашу кватэру надпіс С+М+В?*

*79.3% так,*
*9.8% яшчэ не напісаў(ла)*
*6.1% не*
*4.9% я не ведаю, што гэта азначае*

*Рашучая большасць рэспандэнтаў кожны год ва ўрачыстасць Трох Каралёў асвячае крэйду і змяшчае на дзвярах сваіх дамоў надпіс С+М+В. Аднак, не ўсе зрабілі гэта, таму ёсць яшчэ час, каб даць сведчанне, што ў гэтым доме жывуць веруючыя людзі.*

***Чарговыя рэзультаты каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



**Кс. Павел Салабуда**

*Вынікі чарговага апытання напэўна нікога не здзівяць. Большасць рэспандэнтаў размяшчае надпіс С+М+В на дзвярах сваіх кватэр і дамоў. Ходзячы па калядзе, ксёндз адразу бачыць, дзе жывуць веруючыя людзі. Гэта таксама сведчанне веры тых людзей, якія не баяцца прызнацца ў тым, што яны католікі. Гэты надпіс на нашых дзвярах азначае: "Christus mansionem benedicat", што можна перакласці наступным чынам: "Няхай Хрыстос блаславіць гэты дом". Гаспадары дома просяць аб такім благаслаўленні на цэлы год. Хацелася б, каб большасць нашых дамоў былі хрысціянскімі.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**3 лютага 1984 г.** – а. Войцех Навачык OMI, *проб. Навагрудак;*

**4 лютага 1977 г.** – кс. Казімір Раслеўскі, *проб. Ваўкавыск-Фара;*

**4 лютага 1992 г.** – кс. Казімір Баневіч, *ген. вік., проб. Ліда-Слабада;*

**5 лютага 1910 г.** – кс. Тадэвуш Сідароніч, *проб. Белагруда.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

# Может ли католик причащаться в православном храме и наоборот?

*Меня учили тому, что католики при отсутствии католического храма могут принимать причастие в храме православном и наоборот. Однако встретил возражение: «Разрешается только присутствие на богослужении». Какова истина?*



*Кс. Юрый Ясевіч удзяляе св. Камунію*

Восточные Церкви, не находящиеся в полном общении с католической Церковью, обладают действительными таинствами, обеспеченными апостольской преемственностью. Однако существует тесная связь между церковным единством и таинственным единством, поэтому в целом здесь действует правило: католические священнослужители преподают таинства законным образом только католикам, а католики, в свою очередь, принимают таинства законным образом только от католических священнослужителей, и наоборот. При этом католическая Церковь допускает общение в таинствах – особенно Евхаристии, покаяния и помазания больных – с другими Церквями и церковными общинами при определенных условиях.

Такой подход основан на 844 каноне Кодекса канонического права, соответствующего канону 671 Кодекса канонов Восточных Церквей: «Всякий раз, когда этого требует необходимость или к этому склоняет подлинная духовная польза, причём отсутствует опасность заблуждения или безразличия, тем верным Христу, которые физически или морально не могут обратиться к служителю католику, позволяется принимать таинства покаяния, Евхаристии и помазания больных от служителей некатоликов, в Церкви которых вышеуказанные таинства существуют действительным образом. Служители католики правомочно преподают таинства покаяния, Евхаристии и помазания больных членам Восточных Церквей, не находящимся в полном общении с католической Церковью, если последние сами о том попросят и будут настроены подобающим образом».

Это общее правило. А епископские конференции разъясняют это правило в применении к местным условиям. Вот, к примеру, какие нормы разработаны епископской конференцией Италии: таинства могут преподаваться верующим православным, которые проявляют «веру, полностью соответствующую вере католической Церкви в области того таинства, о котором они просят, и при наличии серьезной духовной потребности в нем для вечного спасения. Эта потребность относится к более тесному единению со Христом, а значит, подразумевает более глубокую приверженность к Христовой Церкви». Если верующий имеет подлинную веру в данное таинство и серьезную духовную потребность, если он имеет соответствующее намерение и должным образом подготовлен к плодотворному принятию освящающей благодати, то он может приступить к таинству в католическом храме.

Но когда мы рассуждаем о возможности причащения в православном храме, нужно учитывать мнение православной стороны. Об этом гласит и 5 параграф вышеприведенного канона: «Епископ или конференция епископов не должны предписывать общих норм без предварительной консультации с правомочной властью (по крайней мере, местной) некатолической Церкви».

Посмотрим, например, что о такой практике говорится в документах Русской православной Церкви. В документе «Основные принципы отношения РПЦ к инославию» (2000 г.) говорится, что «диалог с Римско-Католической Церковью строился и должен строиться в будущем с учетом того основополагающего факта, что она является Церковью, в которой сохраняется апостольское преемство рукоположений». В то же время, в другом параграфе читаем: «Единство Церкви есть прежде всего единство в вере и общение в таинствах. Но подлинное общение в таинствах не имеет ничего общего с практикой так называемого «интеркоммуниона». Единство может осуществиться только в тождестве благодатного опыта и жизни, в вере Церкви, в полноте таинственной жизни в Духе Святом». Это положение по своей сути не противоречит подходу католической Церкви, если под термином «интеркоммунион» подразумевать совместное совершение таинства Евхаристии.

Вот, что говорит на эту тему Катехизис католической Церкви: «Чем более болезненно ощущаются разделения Церкви, разрывающие общее участие в Господней Трапезе, тем более настойчивыми становятся молитвы к Господу о том, чтобы вновь наступили дни полного единства всех, кто верует в Него. Восточные Церкви, которые не находятся в полном общении с католической Церковью, совершают Евхаристию с большой любовью. Эти Церкви, хотя и разъединенные с нами, обладают истинными таинствами, особенно, в силу апостольского преемства, священством и Евхаристией, которые тесно связывают их с нами. Некоторое общение в таинствах (in sacris), а значит, в Евхаристии, «не только возможно, но даже рекомендуется при благоприятных обстоятельствах и с одобрения церковных властей» (ККЦ 1398).

***Радио Ватикана***

● працяг у наступным нумары

## Лепш пытаць, чым памыляцца

### *Як Касцёл ставіцца да працэдуры перавязкі матачных труб?*

*Касцёл адмоўна ставіцца да перавязкі матачных труб. Пра гэта чытаем у энцыкліцы бл. Паўла VI “Humanae vitae”: “Як ужо шматразова падкрэсліваў Настаўніцкі інстытут Касцёла, трэба адкідваць непасрэднае пазбаўленне плоднасці – ці то пастаяннае, ці то часовае – як у мужчын, так і ў жанчын”. У наш час сапраўды даволі часта можна сустрэцца з практыкай хірургічнай стэрылізацыі жанчын. Таму жанчына, ідучы на такі крок, павінна ведаць, як ацэньваецца гэтая аперацыя з Божага пункту бачання. І тут можна назваць два кірункі.*

*Па-першае, калі жанчына пагаджаецца на стэрылізацыю, каб ужо не мець дзяцей, яна здзяйсняе цяжкі грэх. Таму нікога нельга змушаць да стэрылізацыі ці паддавацца ёй, хоць бы нават сітуацыя ў сям’і была па тых ці іншых прычынах драматычнай. Сама па сабе цяжарнасць не з’яўляецца хваробай, якую б трэба было лячыць стэрылізацыяй ці, яшчэ горш, абортам. Цяжарнасць – гэта доказ здароўя і нармальных адносін у сужэнстве. Чаму нельга стэрылізавацца? Бо свядомае жыццё ў граху блакуе чалавека на дзеянне Божай ласкі. І хоць чалавек можа мець тысячы апраўданняў, каб пайсці на грэх, у такой сітуацыі ён выбірае нейкія часовыя выгады, якія скончацца, а застанецца толькі непакой і разлад з сумленнем.*

*Іншыя адносіны да стэрылізацыі будуць у выпадку, калі ў жаночым арганізме знойдзена хвароба, якую нельга вылячыць інакш, як толькі шляхам выдалення органаў, што служаць для апладнення. У дадзеным выпадку мэта стэрылізацыі – лячэнне хваробы, а гэта інтэнцыя не з’яўляецца грахоўнай.*

*Як бачым з вышэйсказанага, стэрылізацыя не з’яўляецца годным людской асобы і любові метадам рэгулявання плоднасці; яна скіравана на знішчэнне магчымасці жанчыны быць цяжарнай, г.зн. яна парушае інтэгральнасць людской асобы; з тэалагічнага пункту погляду яна з’яўляецца бунтам супраць Бога як Стварыцеля; гэта цяжкі грэх. Калі ёсць сапраўды грунтоўныя прычыны, каб не зацяжарыць, у дадзеным выпадку сужэнцы пакліканы карыстацца натуральным метадам рэгулявання плоднасці, г.зн. уступаць у сужэнскую блізасць толькі ў няплодныя дні.*

### *Якія наступствы стэрылізацыі назіраюцца ў жанчын?*

- *жаль, што пагадзілася на гэта;*
- *падсвядомы пошук спосабаў вяртання папярэдняга стану, напрыклад, жаданне ўсынавіць дзяцей і г.д.*

*Што рабіць, калі такое ўжо здарылася? Касцёл кожнае сваё дзіця заахвочвае да шчырага навяртання праз практыку посту, малітвы, міласціны і плённага карыстання святымі сакрамантамі і духоўным кіраўніцтвам.*

***Кс. Валерый Марціноўскі***

ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ’ЕКТЫВЕ

# Святочны настрой трывае



Святы Божага Нараджэння ўжо мінулі, але святочны перыяд працягваецца. Аб гэтым добра ведаюць жыхары Гродзенскай дыяцэзіі, якія сустракаюцца разам, каб падзяліцца аплаткай, складаючы адзін аднаму святочныя віншаванні і супольна праводзячы час. Прыемным акцэнтам гэтых сустрэч часта з’яўляюцца батлейкі ў выкананні малодшых парафіян.



*Аплаткавая сустрэча парафіяльнай групы **“Маргарытка”** ў Шчучыне*



***“Зразумець Божую любоў”**: каляда ад маленькіх парафіян са Смаргоні*



*Супольная аплат **душпастарства настаўнікаў, выкладчыкаў і выхавацеляў Гродзенскай дыяцэзіі***




*Падчас сустрэчы студэнты катэхетычных курсаў паказалі прадстаўленне **“Бэтлеем сярод нас”***




# Ідзем да і святой камуніі

## Святыя сакраманты

### Я – Божае дзіця!

Пасля ўваскрасення Пан Езус наказаў Апосталам, каб вырушылі ў свет, навучалі ўсіх людзей і хрысцілі іх "у імя Айца, і Сына, і Духа Святога". Ё паслаў ім Святога Духа, які ўзмацніў іх і ўдзяліў патрэбныя ласкі для выканання гэтых цудоўных, але нялёгкіх заданняў.

Святы хрост – гэта найважнейшы сакрамант, таму што без яго Вы не маглі б прыняць ніводнага іншага сакраманту. Не маглі б цешыцца падрыхтоўкай да сакраманту пакаяння і паяднання, а таксама сакраманту Эўхарыстыі.




З моманту хросту Вы ўваходзіце ў сям'ю Пана Езуса, з'яўляецеся Божымі дзецьмі. Сям'я Хрыста – гэта вялізная супольнасць людзей, якія вераць у Яго і любяць Яго. Гэтую сям'ю мы таксама называем Касцёлам.

Вашае першае ці другое імя, выбранае на хросце Вашымі бацькамі, – гэта імя святога заступніка, які павінен быць для Вас прыкладам жыцця. Падчас хросту ксёндз і ўсе людзі, сабраныя ў касцёле, маліліся, каб Вы атрымалі годнасць Божага дзіцяці. Затым ксёнз паліў Вашыя галовы асвечанай вадой і адначасова прамовіў словы: "я цябе хрышчу ў імя Айца, і Сына, і Духа Святога". Так з Вас быў змыты першародны грэх і Вы атрымалі зярняткі веры. Гэты дар трэба захоўваць і клапаціцца пра яго. У гэтым Вам павінны дапамагаць бацькі і хросныя, якія ўзялі на сябе абавязак выхоўваць Вас у веры каталіцкага Касцёла.



Калі да святога хросту прыступае дарослы чалавек, ён павінен добра да яго падрыхтавацца. Такая падрыхтоўка называецца катэхуменатам. Святы хрост змывае грахі, здзейсненыя да прыняцця гэтага сакраманту.

Святы хрост удзяляецца святаром урачыста, часта падчас св. Імшы. Але калі здараецца нейкая небяспечная сітуацыя, нейкая неадкладная неабходнасць, сакрамант хросту можа ўдзяліць кожны чалавек.

# Куток пытанняў

**Калі** дарослы можа прыняць сакрамант святога хросту?

Дарослы чалавек прымае сакрамант хросту ў тым выпадку, калі ён не быў ахрышчаны ў дзяцінстве. Гэты сакрамант прымаецца толькі раз у жыцці. Ён пакідае на душы чалавека глыбокі след. Ты можаш ганарыцца тым, што з'яўляешся хрысціянінам – кімсьці, хто належыць Езусу Хрысту, можа Яго любіць і вызнаваць веру ў Яго.

**Навошта** падчас хросту ўжываецца вада, запальваецца свечка і накладваецца на дзіця белая вопратка?

Вада з'яўляецца сімвалам жыцця і чысціні. У святым хросце кожны чалавек адорваецца Божым жыццём і адначасова яго душа становіцца чыстай і прыгожай.

Запаленая свечка – гэта сімвал святла Езуса Хрыста. Свечка, якую трымаюць бацькі і хросныя, з'яўляецца знакам гатоўнасці даваць сведчанне веры і добрага жыцця.

Белая вопратка з'яўляецца сімвалам станаўлення кімсьці новым, сімвалам годнасці Божага дзіцяці, сімвалам прыгожай і чыстай душы таго, хто прыняў сакрамант святога хросту.

Намашчэнне святым алеем – гэта знак далучэння ахрышчанага да супольнасці Касцёла. З гэтага моманту ён мае на сваёй душы незмываемы знак прыналежнасці да Пана Езуса.

# Ад шчырага сэрца

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму з нагоды першай гадавіны біскупскіх пасвячэнняў перасылаем мноства сардэчных пажаданняў моцнага здароўя, душэўнага супакою, аптымізму, сіл і стойкасці на кожны дзень паслугі. Шчасці Божа!

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

Паважанай Спадарыні Дануце Рапейка перасылаем шчырыя словы ўдзячнасці за шматгадовую адданую працу на карысць Гродзенскага Касцёла і газеты "Слова Жыцця". Няхай добры Бог адорыць Вас моцным здароўем на доўгія гады жыцця, аптымізмам, моцай і цярплівасцю, каб пераадолець усе цяжкасці, а таксама душэўным супакоем і радасцю. Няхай Святы Дух спасылае на Вас свае шчодрыя дары, а Найсвяцейшая Маці нястомна Вамі апекуецца.
З нагоды надыходзячага Дня нараджэння жадаем таксама ўсіх Божых ласкаў, сямейнай цеплыні, здзяйснення мар і добразычлівых людзей побач. Шчасці Божа!

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю з нагоды Імянін ад усяго сэрца перасылаем мноства найлепшых пажаданняў моцнага здароўя, штодзённай радасці, поспехаў у душпастарскай працы, душэўнага супакою і добразычлівых людзей побач. Няхай усемагутны Бог адорыць Вас сваім блаславеннем на кожны дзень, а св. Заступнік нястомна трымае ў сваёй апецы.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Галынкі*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Чэславу Паўлюкевічу з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Жадаем шчасця, якое плыве з Божага абрання, шчодрых Божых ласкаў, веры і надзеі ў Богу. Няхай цяжкасць змагання са штодзённасцю акрыляе Вас і дапамагае разглядзець прыгажосць і глыбіню жыцця. Жадаем Вам таксама несці Добрую Навіну, пашыраць радасць, надзею і любоў, каб Вы былі знакам прысутнасці Бога сярод Яго люду. Жадаем, каб любоў, якая з'яўляецца сувяззю ўсяго і яднае людскія сэрцы, увесь час Вам спадарожнічала, асабліва ў будаванні сувязі паміж душпастарам і вернікамі. Мы са свайго боку ахінаем Вас сваёй малітвай, каб Бог блаславіў Вас і нястомна ўзмацняў сваёй ласкай і супакоем.

*З хрысціянскім прывітаннем і надзеяй на святарскае блаславенне парафіяне з Росі*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю, Шаноўным Сёстрам Ганне, Агнешцы і Удаве Сабіне з нагоды свята Маці Божай Грамнічнай перасылаем шчырыя віншаванні і пажаданні. Няхай Маці Божая ахінае няспыннай апекай і супакоем у сэрцы, а міласэрны Бог узнагародзіць любоўю і святлом, каб выбраны Вамі жыццёвы шлях быў шчаслівым і блаславёным, а кожны дзень – ясным, цёплым і радасным. Моцнага здароўя, цярплівасці, сіл і стойкасці ў паслузе на карысць Богу і людзям. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за шчырую малітву і адданую працу на карысць нашай парафіі.

*Удзячныя парафіяне з Трабаў*

Дарагім Леакадзіі і Нікалаю Галавач з нагоды 50-й гадавіны шлюбу перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Жывіце ў здароўі і радасці яшчэ многія гады, не ведайце смутку і гора, цешцеся кожнай хвілінай і адорвайце ўсіх навокал сваёй дабрынёй і пяшчотай. Жадаем таксама мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, нязгаснай любові ў сэрцах, моцы і цярплівасці, а таксама добрых і шчырых людзей побач.

*Сям'я Стасюкевіч*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Вэдэру з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў здароўя на доўгія гады жыцця, шчодрых ласкаў ад Езуса і Яго Беззаганнай Маці. Няхай промні міласэрнасці Езуса, якія выходзяць з Яго Найсвяцейшага Сэрца, асвятляюць Ваш святарскі шлях кожны дзень.

*З удзячнасцю і шчырай малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Мятліцкаму перасылаем сардэчныя пажаданні з нагоды Дня нараджэння. Няхай Бог адорвае Вас здароўем, мудрасцю і чулым сэрцам, дапамагае заўсёды несці Езуса людзям праз святарскія рукі, Святы Дух няхай умацуе душу і цела і дапаможа пры будаўніцтве касцёла, а Маці Божая няхай заўсёды Вамі апекуецца.

*Са шчырай малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усяго найлепшага: шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа на кожны дзень, нястомнай апекі св. Заступніка і Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама шчодрага плёну на ніве Пана. Жадаем таксама аптымізму, душэўнага супакою, моцнага здароўя, шчасця і дабрыні ад людзей навокал. Шчасці Божа!

*Касцельны, Касцёльная рада, парафіяне і парафіяльны хор з Галынкі*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу з нагоды Імянін жадаем святла Святога Духа на кожны дзень, Божай радасці, як мага больш сіл і здароўя, а таксама задавальнення ад працы. Няхай Ваша душпастарская паслуга будзе шчаслівай і блаславёнай, а Маці Божая і св. Францішак Асізскі заўсёды чуваюць над Вамі і дапамагаюць. Мы ўдзячны Вам за тое, што Вы з намі.

*З малітвай удзячныя парафіяне са Свіслачы*

Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу з нагоды Дня нараджэння і Імянін ад усяго сэрца жадаем усіх Божых ласкаў. Няхай усемагутны Бог ахіне Вас сваёй міласэрнасцю і дабрынёй, адорыць супакоем і моцным здароўем на доўгія гады і спашле на Вас усе свае ласкі. Няхай Маці Божая і св. Заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а побач будуць толькі добрыя і зычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*Удзячныя парафіяне*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Субелю складаем словы шчырай удзячнасці ў сувязі з душпастарскімі візітамі ў нашай парафіі. Мы шчыра ўдзячны Вам за асвячэнне нашых дамоў, за супакой і радасць, якія Вы нам нясеце, а таксама за тое, што разам з Вамі да нас прыходзіць Пан Бог. Няхай Хрыстос Вас блаславіць і аблягчае сваёй любоўю Ваш штодзённы крыж. Няхай Ён узнагародзіць Вас добрым здароўем на доўгія гады і дадасць сіл, а Маці Божая няхай Вамі штодзённа апекуецца і адорвае шчасцем.

*З памяццю ў малітве верныя парафіяне з Гіровічаў*

Дарагой Сястры Агнешцы Стасіловіч з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, сілы, стойкасці, цярплівасці ў штодзённай працы, усіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа, нястомнай дапамогі Найсвяцейшай Панны Марыі і апекі св. Агнешкі. Няхай Вашае сэрца будзе напоўнена радасцю, любоўю і будзе адкрыта на людзей.

*З любоўю парафіяне*

Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму з нагоды Імянін жадаем, каб усё жыццё было напоўнена святлом і любоўю. Няхай Збавіцель суправаджае Вас па цудоўнай дарозе святарства, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Жадаем таксама моцнага здароўя і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і св. Заступніка.

*Моладзь з пар св. Вацлава ў Ваўкавыску*

Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку з нагоды Юбілею 40-годдзя шчыра жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і мноства Божых ласкаў, добразычлівых людзей, заўсёды гатовых прыйсці на дапамогу ў будаванні касцёла, а таксама сіл і стойкасці ў душпастарскай працы. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя апекуецца Вамі ў кожную хвіліну жыцця, а добры Бог адорвае сваім бацькоўскім блаславеннем, каб Вы далей маглі будаваць Божае Валадарства на зямлі.

*Удзячныя парафіяне з Торфабрыкетнага*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Беланосу з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і блаславёны, побач будуць зычлівыя людзі, а Божыя ласкі няхай сыходзяць на Вас няспынна. Чэрпайце радасць з кожнай хвіліны, цешцеся сваёй паслугай і заўсёды ўсміхайцеся сабе і людзям навокал. Шчасці Божа!

*Касцёльны камітэт, удзячныя парафіяне і кс. Вячаслаў Матукевіч*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку з нагоды Дня нараджэння перасылаю мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы трымаеце ў сваіх святарскіх руках, блаславіць Вас кожны дзень, Маці Божая няхай ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух напаўняе моцай і адорвае ўсімі сваімі дарамі, каб Вы маглі годна выконваць душпастарскую паслугу. Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе блаславёны, поўны здароўя, радасці і надзеі. Шчасці Божа!

*Парафіянка Тэрэза*

Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў Божага блаславення і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень. Прыміце нашы віншаванні, наш дарагі Ксёндз, бо ўсе мы Вас вельмі шануем. Гарачыя малітвы мы ўзносім перад алтаром, каб Бог адарыў Вас здароўем і доўгім жыццём. Няхай келіх горычы Вас заўсёды абмінае, каб Вы маглі 100 гадоў працаваць на ніве Пана. Аддзяч, Божа, бацькам за добрага сына святара.

*Удзячныя парафіяне з Казловічаў*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** кс. Ян Раманоўскі, Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 393; тыраж 6840; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная